## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### УЗНАГАРОДЖАНЫЯ

З нагоды Свята Адраджэння былі ўзнагароджаны наступныя жыхары Дубіцкай гміны: Кавалерскімі Крыжамі Ордэна Адраджэння Польшчы — Павел Сурэль з Ягаднікаў, Уладзімір Пень і Сцяпан Зубэр, абодва з Тафілаўцаў, Пётр Чыквін з Чэхаў Арлянскіх і Ян Дзянісюк (работнік гміннага ўпраўлення); Залаты Крыж Заслугі — Васіль Ляшкевіч (сакратар гміннага ўпраўлення); Бронзавыя Крыжы Заслугі — Мікалай Федарук з Вітава і Рыгор Рута з Грабаўца; залаты значок „Заслужаны для Беласточчыны" — Ніна Нікіцюк з Ялёнкі; значкі „Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі" — Кірыл Баравік з Вітава, Рыгор Корч з Тафілаўцаў і Пётр Казачук са Старыны; значкі „Заслужаны дзеяч ФАН" — Рыгор Трафімюк з Грабаўца, Аляксандра Сегень са Старога Корніна, Барбара Сільвановіч (работніца дубіцкага філіяла ГС) і Ян Гурын з Істока.

У кнігу заслужаных для Беласточчыны былі ўпісаны: вёска Ягаднікі і прозвішча Мікалая Чыквіна, начальніка Дубіцкай гміны.

Дыпломы за найактыўнейшы ўдзел у рэалізацыі грамадскіх пачынаў у гміне атрымалі: Сцяпан Філіповіч і Уладзімір Дзік — абодва з Пасечнікаў Малых, Мікалай Федарук з Вітава, Уладзімір Хіліманюк з Тафілаўцаў і Гмінная зборная школа ў Дубічах Царкоўных, а таксама дваццаць жыхароў вёскі Ягаднікі, якія грамадскай працай пабудавалі сабе святліцу.

(яц)

### БОЛЬШ ЗЕЛЕНІ ГОРАДУ!

У канцы чэрвеня ў Гайнаўцы адбылася супольная сесія гарадской і гміннай нарадовых радаў, якая абмяркоўвала справу вырошчвання агародніны на тэрыторыі горада і гміны, а таксама пастаўку тых прадуктаў гораду. Сесія ўстанавіла, што, хоць жыхары горада цяпер больш ядуць гародніны і фруктаў, то аднак усё яшчэ мала гэтага маюць. І цэны на гэтыя прадукты ў Гайнаўцы вышэйшыя, чым у Беластоку.

Сесія прыняла праграму вырошчвання агародніны да 1985 года. Паводле гэтай праграмы больш будзе вырошчвацца агародніны ў прыгарадных вёсках, як Ліпіны, Навасады, Наваkорнін і Махнатае. Сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня ў Бельшчыне будзе вырошчваць раннюю агародніну пад фальгой і шклом. Прызначыць пад шкло 5 тысяч кв. метраў, пад фальгу 3 тысяч кв. метраў. Плануецца таксама, каб гаспадары павялічылі паверхню агародніны пад фальгой да 5 тысяч квадратных метраў.

Праграма наказвае звярнуць вялікую ўвагу на сады, якія на Гайнаўшчыне былі занядбаныя. Людзі пасадзяць чатыры новыя сады на абшары 13 га і заложаць плантацыю чорнай парэчкі на 2 га зямлі. Каб людзі ўласнымі сіламі і ўласнымі рукамі маглі вырошчваць больш гародніны, павялічыцца паверхня „дзялковых агародчыкаў" з 8 га да 16 га. Каб тыя агародчыкі былі выкарыстаны больш рацыянальна, распаўсюдзіцца прыклад пасялковага камітэта № 4 і ўвядзецца спаборніцтва сярод уласнікаў агародчыкаў.

Э. Вайсковіч

### КОЛЬКІ МАЛАКА

Як паінфармаваў нас зборшчык малака ў Дубічах Царкоўных, Рыгор Яканюк (працуе ён у злеўні чатыры гады), малако прывозяць сюды сяляне з вёсак: Дубічы Царкоўныя, Чэхі Арлянскія, Істок (адсюль возяць яго найбольш) і Рутка. Разам 2500 літраў у суткі (у малацэ ёсць у сярэднім 3,5—3,7% тлушчу).

Найбольш малака дастаўляюць наступныя земляробы: Рыгор Герцун, сын Васіля з Істока (70 літраў), Пётр Несцярук, сын Яна з Чэхаў Арлянскіх (30—32 літры) і Васіль Андрасюк, сын Фёдара з Дубічаў Царкоўных (28—30 літраў).

(яц)

## ці ведаеце, што...

...малочная спулдзельня ў Бельску выпускае 20% малочных прадуктаў для Беластоцкага ваяводства. У мінулым годзе выпрадукавала больш 3000 тон масла. Штодзень бельскае малачарскае прадпрыемства перапрацоўвае 360 тысяч літраў малака. Працуе тут 270 чалавек.

(Працяг са стар. 1)

# ІДЗЕ ЖНІВО



нельга чакаць, яе трэба папярэдзіць. Вядома ж, што найчасцей псуецца і чаго няма ў продажы. Тады выязджаю ў поле, устаўляю сапсаваную частку, добрую хаваю і выклікаю тэхнічную дапамогу. Яны праводзяць рамонт, а ў мяне ў запасе ўжо сэканомлена адна дэфіцытная запасная частка. Гэта на той выпадак, калі не дастану яе і ў тэхнічнай дапамозе...

Што ж, можна і так. Толькі што было б, каб усе дырэктары пачалі прымяняць гэты адмысловы метад? Запасных частак аказалася б яшчэ менш, чым ёсць іх у сапраўднасці. Так, мазгамі неабходна варушыць, ды толькі так, каб усім ад гэтага была аднолькавая карысць. Чаму сямяціцкі СКР возіць сваё збожжа аж у Цехановец, калі магла б адгружаць яго ў сябе на станцыі, усяго ледзь два кіламетры ад поля? Чаму для гэтай жа спулдзельні абмежаваны аднадзённыя пастаўкі да 60 тон збожжа, калі яе камбайны маглі б намалаціць намнога больш?

— Сваё, эскаэраўскае, збожжа, якога ў нас 400 гектараў, — кажа дырэктар Новік, — маглі б мы выкасіць і абмалаціць за некалькі дзён, але няма дзе яго трымаць, асабліва пры такой няўстойлівай пагодзе...

Праца сельскагаспадарчай тэхнікі не абмяжоўваецца цяпер толькі да адной жатвы збожжа. Зараз жа за снопавязалкамі і камбайнам трэба пускаць плугі і сеяць кармавыя пажніўныя расліны. Сёлета гэта выключна важная справа, бо толькі гэты паплён можа папоўніць недахоп корму і забяспечыць развіццё жывёлагадоўлі...

— А калі ўжо распачыналася жніво, — успамінаў старэнькі бацька, — то і радасць у вёску вярталася, людзі песні спявалі, бо ўпершыню ад некалькіх тыдняў можна было ўдосталь наесціся хлеба...

А хто цяпер ведае, што такое галодны **дажніўны перыяд?** Затое кожны ведае, што такое запасныя часткі і што без іх таксама неяк правядзем мы жніўную акцыю.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

# ВАСІЛЬ КАНАНЮК



— Чуеце? Гэта музыка... Вырываецца яна з хаты Васіля Кананюка. Жыхары Храбустоўкі (гміна Нарва) часта маюць магчымасць чуць, як іграе на гітары гаспадар гэтай хаты. Мелодыі раз сумныя, раз вясёлыя.

— Калі няма работы і калі ўспаміны мінулага апануюць, — гаворыць Васіль Кананюк, — бяру я гітару ў рукі. Пайграю ўдосталь, і лёгка робіцца на душы.

Кананюку ўспамінаюцца часамі гады яго цяжкага дзяцінства, калі музычны інструмент быў рэдкасцю на вёсцы. Яму вельмі хацелася іграць на скрыпцы, але ён ведаў, што бацькі скрыпкі не купяць. Будучы школьнікам, Васіль Кананюк сам зрабіў сабе скрыпку і іграў. Пазней гэтую скрыпку прадаў крамару-яўрэю, які купіў яе для сваёй дачкі. Кананюк зрабіў сабе другую скрыпку, яшчэ лепшую.

Васіль Кананюк ідзе на гару і прыносіць яшчэ тую скрыпку.

Ужо ў дзіцячыя гады вылучаўся гэты чалавек вялікімі здольнасцямі.

— Калі было мне сем год, рабіў я ўжо табурэткі, а ў 10 год зрабіў я першую скрыпку, — кажа ён. — Дзяцінства хутка праляцела. Яшчэ хутчэй маладосць. І калі гэта ўсё прайшло... — здзіўляецца Кананюк. Ён вырасціў трое дзяцей і ўсе яны сямейныя, расплыліся па свету, а ён сам астаўся ў гэтай хаце, якая калісьці напоўнена была дзіцячым гоманам.

Гэтую хату ён сам будаваў. І печы ў ёй сам парабіў і мэблю сялянскую, дамашнюю. Ды не толькі сабе рамесныя працы выконваў. Будаваў печы, рабіў фундаменты пад будынкі і пару хлявоў змураваў сваім аднавяскоўцам. А са слёсарскага рамяства — рабіў ключы, нажы, свярдзёлкі, долаты і іншыя прылады. А быў такі час, калі ўзяўся за прадукцыю даволі арыгінальных запальнічак. І шыў боты. Ён і цяпер і туфлі, і гумоўцы пачыніць.

Васілю Кананюку цяпер 72 гады. Наступіла старасць. Але і цяпер многа чаго рамантуе, многа чаго робіць. Так што ён патрэбны людзям, а гэта яго найбольш цешыць.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

# ТРАГЕДЫЯ

Празвінеў званок, абвяшчаючы ўваход суда. Усталі. Стаяў пад наглядам міліцыянера, адвярнуўшы галаву ад залы і глядзеў у акно, за якім сняжылася студзеньскае неба. Распачаўся дослед. Суд стараецца ўстанавіць праўдзівы ход падзей таго трагічнага дня. Абвінавачанне ў забойстве. 1 мая 1978 года, у няцэлых пяць год пасля паўгадовага турэмнага прысуду, дзейнічаючы з намерам пазбаўлення жыцця стоража пры мясцовых дарожных работах — сямідзесяцігадовага чалавека, ударыў яго шэсць разоў сякерай у галаву, у выніку чаго той памёр.

Прачытваюцца паказанні ранейшых допытаў. Якое праўдзівае? Абвінавачаны за кожным разам гаворыць іншае, стварае новыя гісторыі. Выразна заўважаецца начытанасць крымінальнай літаратуры. Ідуць допыты сведкаў. Момант за момантам, этап па этапе ўзнікае поўны вобраз.

Абвінавачанаму ўсяго 23 гады. Дома жонка, малое дзіця, гаспадарка. Да поўнай самастойнасці жыў пры бацьках. Як і аднагодкі, меў свае справы, клопаты. Быў вучнем сярэднім, але здольным. Хлопец жывы, але не скандаліст, непрыдзірлівы. Заўсёды вясёлы, сяброўскі. Любіў гульні, а асабліва спартыўныя. Ніколі не быў адзін, заўсёды меў многа сяброў. Настаўнікі нагул не мелі з ім клопатаў, хаця даволі часта здаралася, што чыгнам апераджаў думку. Зробіць, а потым думае, толькі потым да яго даходзіць тое, што зрабіў. Меў свае зацікаўленні — гульня ў падыходы і крымінальная літаратура. Моцна любіў хованкі. Дайшоў да пэўнага ўзроўню мастацтва ў пабудове тайных месц. Партызаншчына. Маскаваў уваходы. Ніхто б і не падумаў, куст як куст, а хопіць яго адпаведна пацягнуць ці прыпаднець і адкрываецца ўваход у выкапаную зямлянку. Яшчэ ў школе пачаў чытаць крыміналы і глядзець крымінальныя фільмы. Часта дапасоўваў да іх выдуманае дзеянне, кіраваў па-свойму героем, выводзячы яго з крытычных абставін.

Потым пачаў піць. Першыя канфлікты з правам. Адабралі правы на матацыкл. Дапільнаваўшы, калі ўсе павыходзяць з аддзела камунікацыі, уварваўся туды з намерам выкрасці. Трапіў на стоража. Спрэчка. Судовы прыгавор — шэсць месяцаў турэмнага зняволення.

Ажаніўся. Бацькі з сям'ёй выехалі ў горад, пакідаючы сыну гаспадарку. Стаў поўнапраўным гаспадаром. Заняўся жывёлагадоўляй. Абзавёўся вялікай колькасцю кароў. Добры гаспадар, свой трактар, машыны. Зрэшты, гаспадарка ў іх заўсёды была на высокім узроўні. Сям'я працавітая. Ён выграшыў заняцца спецыялізацыяй. Першыя плады высакаякасныя. Немалы даход. Але раз распачатае рабіла сваё. Штораз часцей бачылі яго п'яным. Потым пачало паўтарацца гэта штодзень. Дома — сваркі. Гаспадарка штораз большым цяжарам пачала падаць на плечы жонкі. Шукаў выгоднага і лёгкага жыцця. Непадалёк рабілі дарогу. Стаялі машыны. Штораз часцей пачалі яго там заўважаць, асабліва пасля працы, калі дарожнікі разыходзіліся. То „пазычаў" нафту для свайго трактара, то адкручваў часткі ад машыны. Заўважыў сторож. Некалькі разоў звярнуў увагу. Не памагала, тады пастрашыў, што звернецца ў міліцыю. Памалу нарастаў канфлікт.

1 мая 1978 года, другі дзень праваслаўнага Вялікадня. У людзей госці. Адны другіх наведваюць. Разам з жонкаю і дзіцём паехалі да сваякоў. Так як у гасцях, выпіў, моцна выпіў. Вярталіся позна вечарам. Дарога вяла непадалёк старажоўкі, дзе дзядуля пільнаваў машыны і прылады. У пэўны момант саскочыў з фуры, быццам бы за сваёй патрэбай. Фура паехала. Да хаты ўжо было недалёка. Накіраваўся да старажоўкі. Трэба ў канцы разлічыцца, — хадзіла па п'янай галаве. Сторож, нічога дрэннага не падазраючы, упусціў, тым больш, што знаёмы. Слова па слове дайшло да спрэчкі, тузаніны. Бачачы, што словамі нічога не вырашыш, схапіў сякеру, якая разам з

## Бельскія „Васілёчкі" жывуць

У нядаўняй беларускай радыёперадачы Польскага радыё ў Беластоку Віктар Рудчык сказаў, што бельскі хор „Васілёчкі" разляцеўся і толькі шчасце, што ён запісаў песні на плёнку, таму і прапануе іх паслухаць. Гэта няпраўда, што „Васілёчкі" не існуюць! Хачу сказаць, што слаўны бельскі хор „Васілёчкі" жыве і спявае. Гэта хор з традыцыямі, дзейны ў культурным жыцці Беласточчыны ад 1964 года. Вядома ж, у кожнага бываюць узлёты і ўпадкі. І вось пасля гадавога перапынку бельскі хор зноў працуе. Людзі прыходзяць — старэйшыя, ветэраны нашы, і новыя. Ад чэрвеня ідуць рэгулярныя рэпетыцыі ў Доме культуры ў Бельску, на якія ўсіх ахвотных, з галасамі і любячых песню, сардэчна запрашаем.

Хор у далейшым 4-галосны, налічвае цяпер 26 асоб, у тым ліку 10 мужчын. Старыя члены хору складаюць фундамент. Некаторыя новыя абяцаюць прыйсці ў хор восенню.

Рэпертуар наш — песні народныя і сучасныя беларускіх кампазітараў. На варштаце ў нас цяпер: „А ці ў полі не калінка расла" — народная ў апрацоўцы Грачанінава, „Край ты наш квяцісты" — музыка Корсака, „Ой ты, песня мая" — Шыдлоўскага, „Жаніўся стары на маладзенькай" — народная, з рэпертуару „Прагрэсу", спяваюць у нас у дуэце Юрка Гаўрылюк і Ананій Ясюк з хорам, „Як павезлі мяне сватаць" — Ханока, „Доктар" — народная, абедзве апошнія з рэпертуару „Лідчанкі", „Жыў на свеце Лявон" — старая песня на словы Янкі Купалы, выконвае сола Юрка Гаўрылюк у суправаджэнні хору.

Столькі пра песні. Але хачу яшчэ расказаць, як дайшло да таго, што „Васілёчкі" зноў сабраліся грамадою і заспявалі.

Вялікая ўдзячнасць належыцца тут мясцовым уладам на чале з намеснікам начальніка горада Бельска Лявонціем Парафінюком, якія вельмі цікавяцца нашым хорам. Якраз па ініцыятыве начальніка Парафінюка хор быў рэактываваны. У канцы акцыі за адраджэнне хору, адбылася сустрэча начальніка Л. Парафінюка з хорам, на якую ён асабістымі лістамі папрасіў былых харыстаў. Прыйшло 18 чалавек. Размова была плённай і мабілізуючай.

У нашым адроджаным хоры маем ветэранаў, з жанчын: Вера Раеўская, Еўдакія Навакоўская, Марыя Цар, Валянціна Вашчук, Нона Кожан; з мужчын: Ананій Ясюк, Павел Лемеш, Васіль Антыпюк, Уладзімір Грыгарук, Уладзіслаў Талвінскі, Юрка Гаўрылюк — даўнейшы саліст эстрады „Лявоніха".

Ёсць і малодшыя, якія ўжо паспелі заразіцца песняй і працай, на якіх мы вельмі разлічваем. Гэта Ніна Нікіцюк, Лідзія Манаховіч, Вяслава Ваўрыновіч, Аляксандр Краўчук і іншыя.

На заканчэнне напамінаем: нашы пастаянныя рэпетыцыі адбываюцца ў кожны аўторак ад 18 гадзіны. Сардэчна запрашаем.

**Сяргей Лукашук,**
мастацкі кіраўнік і дырыжор

## Бібліятэка ў Трасцянцы

Філіял гміннай бібліятэкі ў Нарве змяшчаецца ў Трасцянцы ў даволі прасторнай мураванцы, вырасшай на маляўнічым узгорку пры дарозе ў Белкі. Займае тры прасторныя пакоі. У адным з іх на паліцах каралеўства кніг. Другі служыць за чытальню, а ў трэцім адбываюцца культурныя мерапрыемствы. На сценах актуальныя лозунгі, фотагазеты, прысвечаныя 35-годдзю Польскай Народнай Рэспублікі, Міжнароднаму году дзіцяці.

Бібліятэка мае каля 6 тысяч розных кніг. Ужо ў бягучым годзе атрымала 200 новых. Чытачамі ў асноўным з'яўляецца школьная моладзь пачатковай школы і сярэдніх школ, а таксама пенсіянеры. Сярод гэтай апошняй групы найбольш кніжак чытаюць Міхал Плашкевіч і Аляксандр Богуш.

Даволі багата тут і беларускай літаратуры. Ёсць класіка і сучасная літаратура. Многа кніжак пра апошнюю вайну, слоўнікі, альбомы, зборнікі вершаў. Не бракуе і нашых беластоцкіх і варшаўскіх аўтараў. Найбольш вернымі чытачамі роднай літаратуры з'яўляюцца тут Валодзя Волчык і Міша Казачук, а таксама дзяўчаткі-школьніцы з Белак.

Захапляюцца беларускай і рускай літаратурай, якая паказвае гераічны шлях нашых народаў у змаганні з нямецкімі захопнікамі Аляксей Грыгарук і Міхась Амельянюк.

Філіял у Трасцянцы мае 6 бібліятэчных пунктаў у вёсках: Анцуты, Агароднікі, Белкі, Іванкі, Пухлы і Сацы. Найлепш працуе пункт у Бялках, яго вядзе Мікалай Лук'янюк.

У бібліятэцы можна пачытаць і шмат часопісаў. І кніг па сельскай спецыяльнасці тут нямала. Сярод новых вельмі карысная „Подставовэ права і обовёнзкі рольніка" — М. Блажэйчыка.

Яе тут два экземпляры і варта сялянам чытаць яе хутчэй. Шкада толькі, што працаўнікі ВСГР у Трасцянцы не часта карыстаюцца прафесіянальнай літаратурай.

Бібліятэкар у Трасцянцы — яшчэ маладая гадамі і стажам дзяўчына, але вельмі сур'ёзна адносіцца да сваёй працы. За кароткі час зрабіла ў бібліятэцы нямала. Яна майстар арганізаваць розныя мерапрыемствы для моладзі, як вечары казак, папулярныя „згадуй-згадулі" на розныя тэмы, тэматычныя вечары для школьнай моладзі, тэматычныя выстаўкі кніжак. Праўда, працы ў бібліятэцы многа. Але спраўляецца з ёю дзяўчына нядрэнна. Цяпер парадкуе бібліятэчны каталог. Вялікую дапамогу атрымлівае ад кіраўніка гмінай бібліятэкі ў Нарве Марыі Мацкевіч.

Наш бібліятэкар — вартая ўвагі дзяўчына. Яна і сярод моладзі карыстаецца аўтарытэтам. Яны выбралі яе старшынёю гуртка ЗСМП. Гэтая дзяўчына вырасла і выхавалася ў Трасцянцы і добра разумее службу свайму асяроддзю. Завецца Ганя Нікалаюк.

**Рута**



*Кацярына Янушка чытала свае вершы.*

## Урачыстасць у гміне

**(Працяг са стар. 1)**

пракайце майго прасцяцкага слова". На яе вачах пераўтваралася ўсё жыццё, яна прымала ў гэтым працэсе непасрэдны ўдзел і цяпер не можа ўстрымацца, каб не выказаць свайго захаплення наступіўшымі пераменамі. За шматгадовую самаахвярную працу ў гандлі і ўдзел у грамадскай дзейнасці К. Янушка ўзнагароджана Залатым Крыжам Заслугі. З яе верша словы пра тое, што „салідная і сумленная праца заўсёды родзіць добры плён" пераклікаюцца са скромнай, але як жа ж прыемнай урачыстасцю. За мястэчкам адбылося адкрыццё адрамантаванага плавальнага басейна. У тэтую працу, вартасцю звыш 100 тысяч злотых, найбольшы ўклад унеслі рабочыя Сяржана і працаўнікі гміннага ўпраўлення, а асабіста — вядомы на Беласточчыне заслужаны рацыяналізатар Аляксандр Фрончак. Ён змайстраваў і абсталяваў у басейне спецыяльную помпу. Так, многа мае міхалоўская зямля людзей, ёй шчыра адданых.

І, бадай, кожны, хто заходзіць у міхалоўскі Дом культуры, з зацікаўленнем глядзіць спецыяльную выстаўку „Міхалоўская зямля на фатаграфіях Янкі Целушэцкага". Так, нашага „ніваўскага" журналіста, майго калегі. На чатырох дзесятках фатаграмаў, зробленых на высокім мастацкім і тэхнічным узроўні, ён паказаў скромную, але як жа блізкую сэрцу кожнага міхалоўца прыгажосць гэтых ваколіц. Таксама з нагоды вялікай гадавіны побач, у суседняй зале, паказалі свае творы тутэйшыя жывапісцы М. Строчан, А. Хайтэр, Т. Кшывіцкі. У добрым гусце, не пазбаўленыя таленту і арыгінальнасці. Абедзве выстаўкі ўпісаліся вельмі прыемнай рысай ва ўсю ўрачыстасць. А яна на наступны дзень азнаменавалася складаннем вянкоў пры помніку загінуўшым ад куляў рэакцыйнага падполля першых дзеячоў народнай улады ў Міхалове. Помнік стаіць у цэнтры мястэчка ў маленькім парку. Вакол памятнай стэлы ўжо ружавеюць раннія гэтым летам і надта ж буйныя гронкі рабінаў. Хутка яны стануць ірдзістыя, нальюцца чырванню...

Гмінныя ўрачыстасці маюць асаблівую вымову.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара



*Узнагароду Фрончаку ўручае начальнік гміны З. Бязубік (першы злева).*



*Я. Целушэцкі пры выстаўцы сваіх фатаграмаў.*

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. СТАДЫІ Ў ЖЫЦЦІ ЧАЛАВЕКА.**

## Дзіцячы фальклор. Забаўлянкі

Мэтай забаўлянак з'яўляецца пацяшэнне і развесяленне дзіцяці. Гэта спроба пашырэння і ўзбагачэння яго свету. На пэўным этапе жыцця дзіця пачынала патрабаваць нечага больш, чым песня, нечага новага, але яшчэ не было настолькі дарослым, каб самому ствараць сабе гульні, гуляць. І так паявіліся забаўлянкі. Сумяшчаюць яны ў сабе элементы песні і гульні — тэкст, спалучаны з рухам. Нагадвае гэта сабой такі нібы тэатрык для дзяцей, тэатрык з дзвюма асобамі — актыўнай, развіваючай дзеянне, якой найчасцей бывае маці, і дзіцём, якое выконвае ролю другарадную, але адначасова з'яўляецца гледачом, для якога гэты тэатрык наладжаны.

Забаўлянка складаецца з тэксту і руху. Адно і другое створана дарослымі. Тэкст або гаварылі, або спявалі, але гэта менш істотнае. Затое істотным з'яўляецца тое, што быў ён цесна звязаны з рухам, можна сказаць быў яго носьбітам, акрэсліваў яго. І таму пры аналізе забаўлянак нельга адлучыць адно ад другога, паколькі з'яўляецца гэта адной цэласцю. Тэкст патрабуе руху, а рух надае вобразнасць тэксту.

Можа дзеля прыкладу прааналізуем адну такую забаўлянку. Возьмем даволі распаўсюджаную і вядомую: „Тосі, тосі лапкі..." Маці, бабулька ці нехта іншы з сям'і, той, хто пільнаваў дзіця, пляскаючы ў далоні, гаварыў, або спяваў:

„Тосі, тосі лапкі,
Поедэм до бабкі,
Бабка дасць піружка
І табачкі з ружка".

Дзіця таксама пачынала пляскаць. Пляскание было спробай выражэння радасці, радасці з таго, што паедзе да бабкі і бабка нешта там яму дасць. Адначасова дзіця, дзякуючы гэтым элементам руху, пачынае ўяўляць працэс дзеяння. Тэкст, залежна ад мясцовасці, можа быць разнавідны, але значэнне і мэта яго тая ж самая. Вось, для прыкладу, іншы варыянт тэксту гэтай забаўлянкі:

„Тосі, тосі лапці,
Поедэм до бабці,
Бабця дасць папкі
У обыдве лапкі".

Розніца толькі ў паасобных словах, але дзеянне тое ж самае — радасць з таго, што паедзе да бабкі і бабка нешта дасць.

Забаўлянкі спалучалі ў сабе элементы, узятыя з жыцця, з працы, якія былі найбольш простыя і даступныя дзіцячаму ўяўленню. Прыкладна, забаўляючы дзіця, стукалі яму пальцам па ступні і гаварылі:

„Кую, кую нуожку,
Поедэм в доруожку,
Доруожка крывэнька,
Кобылка сліпэнька,
Зачэпіліся за пэнь,
Просідіэлі ціэлы дэнь".

Дзіця ў выніку гэтага разумела, што ў дарогу ездзілі канём, каня кавалі. Гэта ўзбагачала яго свет уяўлення.

Цікавай і наогул цяжка зразумелай з'явай з'яўляецца паяўленне ў забаўлянках трагізму. Тым больш незразумелае гэта, што забаўлянкі накіроўваліся да дзяцей, фарміравалі яго светапогляд. А прыкладам гэтага можа быць шырока распаўсюджаная забаўлянка „Сарока-варона...", у якой гаворыцца, паказваючы на пальцах дзіцячай рукі:

„Сорока-ворона
По прыпічку ходіла,
Діткам кашку варыла.
Тому дала,
Тому дала,
А тому — файт,
Голуоўку одкрунула
І сама — фыр, фыр, фыр полетіэла
На бэрозу гніздо віті,
А на кладку мэду піті".

Трагізмам забаўлянкі з'яўляецца тое, што гаворыцца дзецям аб такой справе як абарванне галавы.

На заканчэнне трэба сказаць, што забаўлянкі — гэта від дзіцячай творчасці на этапе ўзросту дзіцяці паміж песняй, песняй-калыханкай і гульнёю.

**Янка Леанчук,**
**Міхась Шаховіч**

